Год III. Сьнежань 1934 г. № 12 (36)

# ДАЗЛУЧЭНЬНЯ!




## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!"

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Вільня. Сьнежань 1934 г. № 12 (36).


## Сьвята Беззаганнага Зачацьця Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.

(*9 сьнежня*).

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗЬДЗЕЛ 8, 16—21. ЗАЧАЛА 36.*

16. Ніхто, запаліўшы сьвечку, не накрывае яе судзінай, ані стаўляе пад ложак, але ставіць на сьветач, каб, уваходзячы, відзець сьвятло

17. Бо няма нічога, што-бы ня выявілася, ані ўкрытага, каб ня сталася вядомым і ня выйшла наверх.

18. Дык уважайце, як вам трэба слухаць: бо хто мае, таму будзе дадзена; а хто ня мае, ў таго адыймецца і тое, што яму здаецца, што ён мае.

19. І прыйшлі да Яго Матка і браты Ягоныя, а з прычыны народу не маглі да яго падыйсьці.

20. І далі Яму знаць. — што Матка твая і браты твае стаяць перад домам, хочучы Цябе відзець.

21. А Ён ім адказаў: — Матка мая і браты мае — гэта тыя, што слухаюць Божае слова і спаўняюць яго.

---

Сяньняшнім сьвятам, установленым на Ўсходзе ўжо ў VII веку, сьвятая Царква Хрыстовая выяўляе сваю веру ў Беззаганнае Зачацьце Багародзіцы. Паводле ўсходняга абраду, сьвята абходзіцца 9 сьнежня ў чэсьць сьв. Анны, што зачала Найсьв. Дзеву Марыю, але тое самае абазначае, што і паводле лацінскага абраду, толькі тая розьніца, што ўва ўсходнім абрадзе ўжыта форма актыўная, а ў лаціньнікаў пасыўная. Аднак-жа выяўляецца вера ў тую самую праў-

ду, што Найсьвяцейшая Дзева ад першага мамэнту свайго зачацьця, дзеля прадназначэньня на Мацер Ісусу Хрысту, была свабодная ад граха першароднага.

Усе людзі, па сваёй прыродзе, прыходзяць на сьвет з плямаю на душы граха першых нашых бацькоў у раі, Адама і Эвы. Вынятак з гэтага агульнага закону для ўсіх людзей зрабіў Госпад Бог для Найсьвяцейшае Багародзіцы, дзеля Ісуса Хрыста, якая па прыродзе таксама падлягала гэтаму агульнаму закону.

Ужо ў раі Госпад Бог абяцаў паслаць на зямлю Жанчыну, насеньне Каторай сатрэ галаву зьмія, злога духа. Сказаў вужу: **„Няпрыязьнь палажу паміж табою ды жанчынаю, між насеньнем тваім і яе насеньнем: яно сатрэ табе галаву“**. (Кн. Быцьця 3, 5).

Жанчынаю гэтаю была Багародзіца Дзева, Яе насеньне, Ісус Хрыстос, зьніштожыў дзьябла. Вось дзеля чаго, сам розум нам кажа, што Ісус Хрыстос, не павінен быў пазволіць, каб Яго Маці была хоць адзін мамэнт у няволі шатана праз грэх першародны.

Дзева Марыя атрымала паўнату ласкі, таксама мела асаблівую ласку, прывілей, што была беззаганна пачатаю. Дзеля гэтае прычыны, сьв. Архангел Гаўрыіл прывітаў Найсьвяцейшую Дзеву: **„Радуйся, поўная ласкі, Госпад з Табою“** (Лук. 1, 28).

Айцы Царквы справядліва прыроўніваюць Найсьвяцейшую Дзеву Марыю да Эвы, называюць Яе другой Эваю, дасканальнейшаю, бо большаю ласкаю абдаранаю. Як праз першую Эву прыйшоў грэх і загуба, так праз другую Эву прыйшла перамога над грахом, збаўленьне. Сьвятыя Айцы кажуць выразна, што грэх ніколі не панаваў над Багародзіцай, — Яна найсьвяцейшая, найчысьцейшая за духаў нябесных. Вось дзеля чаго Сьвятая Царква пяе на чэсьць Прасьвятой Багародзіцы: **„Достойно есть яко воистину блажити Тя Богородицу присноблаженную и пренепорочную и Матерь Бога нашего. Честнѣйшую Херувимъ, и славнѣйшую безъ сравненія Серафимъ, безъ истлѣнія Бога Слова рождшую, сущую Богородицу Тя величаемъ“.**

Ня можна было-б сказаць, што Найсьвяцейшая Дзева Марыя ёсьць без параўнаньня дастойнейшаю за найчысьцейшых і сьвятых духаў нябесных, калі-б душа яе была хаця-б адзін момант пад грахом. Шмат было вялікіх сьвятых, аднак ніводнага мы ня ставім вышэй за нябесных духаў, хэрувімаў ды сэрафімаў.

Сьвята Беззаганнага Зачацьця Багародзіцы, як ужо казаў, паўстала на Ўсходзе ўжо ў VII стагодзьдзі. Хаця ў Царкве Хрыстовай вера ў Беззаганнае Зачацьце заўсёды была, аднак ня было яшчэ абавязку ўсім прыняць гэту праўду ды

верыць ў яе, як у непамыльную праўду, бо ня была гэта праўда абвешчана, як догмат веры.

Прыхіляючыся да просьбы прадстаўнікоў усяго сьвету каталіцкага, Папа Рымскі Піус IX у 1854 г. абвясьціў урачыста догмат аб Беззаганным Зачацьці Найсьвяцейшае Дзевы Марыі. Цяпер яшчэ мацней, бяз ніякага сумліву, кожны шчыры каталік, бяз розьніцы абраду, прымае гэту праўду ды глыбока верыць у Беззаганнае Зачацьце Багародзіцы.

Ня толькі каталікі, але нават і нязлучаныя праваслаўныя прызнавалі ды прызнаюць гэту праўду: Дымітры Растоўскі, памёршы на пачатку XVIII стагодзьдзя, якога нязлучаная праваслаўная царква прызнае сьвятым, выразна ў сваіх навучных творах гавора аб Беззаганным Зачацьці Дзевы Марыі.

А цяпер? Цяпер у нязлучаным хвальшывым праваслаўі трэба адрозьніць афіцыяльную царкву, навучаючую, ды веруючы народ.

Адносна да першае групы, дык невядома, як там вераць, розна бывае, але навучаюць прадстаўнікі адшчапіўшайся Царквы проці гэтага догмату. Калі-б хто ў гэтых „разумных“ багасловаў спытаўся: „Дык як жа павашаму, Найсьвяцейшая Багародзіца была пачата з плямаю граха?“ Можа яны і ня мелі-б адвагі сказаць: „але, з грахом“. Народ праваслаўны, так сама, як і каталікі, заўсёды верыў ды глыбока верыць у Беззаганнае Зачацьце **„пренепорочной Матери Бога Нашего“** — Марыі.

Аднаго разу прачытаў я сваім прыхаджанкам вынятак з газэты „Слово“, у якім якісьці прадстаўнік маскоўскага праваслаўя пярэчыць праўдзівай навуцы каталіцкае царквы аб Беззаганным Зачацьці. Было тады на пропаведзі шмат так званых праваслаўных. Адна з праваслаўных жанчын напісала да мяне пісьмо, кажучы, што яна „ўжо мае 50 гадоў, ды ніколі ня чула, каб хто з праваслаўных пярэчыў навуцы аб Беззаганным Зачацьці Найсьвяцейшей Дзевы Марыі, народ праваслаўны заўсёды так верыць, было-б абразай для Прасьвятой Багародзіцы, каб хто інакш вучыў“. Але, — напэўна можна сказаць, што праваслаўны народ верыць, яго вера розьніцца ад веры афіцыяльнага маскоўскага праваслаўя, дык запраўды тыя, што выступаюць проці догмату Беззаганнага Зачацьця, абражаюць Найсьвяцейшую Дзеву Марыю.

Мы, аднак-жа, ня будзем зьневажаць Найсьвяцейшую Багародзіцу, з усяе душы ды з усяго сэрца будзем верыць ў яе Беззаганнае Зачацьце.

Будзем таксама брыдзіцца ўсякага граха, усякай нячыстасьці, каб хоць крыху падобнымі быць да Тае, Якая была заўсёды, ад самага пачатку, Найчысьцейшаю.

Будзем прасіць Найчысьцейшую, каб сьцерагла нас ад граха, асабліва ад грахоў процічыстаты, ад грахоў цялесных. **„Подъ Твою милость прибѣгаемъ... Едина чистая и благословенная. Пресвятая Богородице, спаси насъ“.** Амін.

*а. Антоні*

---

# „Вѣрую

## во едину, святую, соборную и апостольскую церковь“.

Кожнаму разумнаму чалавеку добра зразумела, што, як адзін на небе Бог, Каторы стварыў увесь сьвет, адзін Яго Сын, Ісус Хрыстос, дзеля збаўленьня ўсяго роду чалавечага, зыйшоў з неба на зямлю, стаўся чалавекам, перанёс страшэнныя мукі і памёр на крыжы, так адну толькі Ён аснаваў сваю сьвятую царкву, у каторай кожны павінен жыць, калі хоча, каб яго душа дасталася, па сьмерці цела, да неба. Кожнаму зразумела, што адна толькі Царква, адна вера аснована Хрыстом і да Хрыста вядзе, а побач з гэтым кожны бачыць, што цяпер шмат на сьвеце вераў, якія падаюцца за праўдзівыя, Хрыстовыя і вядучыя да неба.

Вось, прадбачачы гэта, Хрыстос сказаў, што паўстануць фальшывыя пракокі і фальшывыя Хрысты і многіх зьвядуць, ды прыказаў ня слухаць іх, а сваёй праўдзівай Царкве даў знакі, па якіх можна яе пазнаць і адрозьніць ад цэркваў фальшывых. Знакі гэтыя мы спамінаем у складзе веры' калі кажам: **„Вѣрую во едину, святую, соборную и апостольскую церковь“.**

Значыцца, праўдзівая Хрыстовая Царква ёсьць і можа быць толькі: 1) адна, 2) яна мусіць быць **сьвятая**, 3) — **саборная** або **паўсюдная**, 4) — **апостальская.**

### Праўдзівая вера Хрыстова ёсьць і можа быць толькі адна адзіная.

Вера Хрыстова праўдзівая ёсьць і можа быць толькі адна навукай, гэта знача ўсюды і заўсёды павінна яна прызнаваць тыя самыя праўды веры і абычайнасьці, а ўсе народы маюць верыць у тыя самыя праўды веры. Адна вера мае быць і ў Таінствах, гэта знача, ўсе людзі павінны прызнаваць і, ў меру патрэбы, прыймаць тыя самыя сем Таінстваў: Хрост, Мірапамазаньне, Прычашчэньне Цела і Крыві Хрыстовай, Пакаяньне або Споведзь, Алеяпамазаньне хворых, Сьвяшчэнства і Жанімства або Шлюб.

Адна праўдзівая вера мае прызнаваць Галаву Царквы ўсей — Ісуса Хрыста на небе, а Яго заступніка на зямлі— Папу Рымскага.

**Праўдзівая вера Хрыстова ёсьць і павінна быць сьвятая.**

Сьвятая ў сваёй Галаве, Ісусе Хрысьце, у сваім устройстве і арганізацыі, у навуцы шафаваньня Св. Тайнамі, вядучымі да сьвятасьці; у членах, якія атрымалі ласку сьвятасьці, у Хросьце і адпушчэньні грахоў; у прынашэньні Літургіі (службы), якая адпраўляецца на ўсім сьвеце.

**Праўдзівая вера і Царква ёсьць і павінна быць саборная (паўсюдная)**

Адна і тая самая для ўсіх народаў для ўсяго сьвету: **„Единъ Господь, едина вера, едино крещеніе"** (Эфэс. 4, 5). Яна па ўсім сьвеце аглашаецца і трывае ад самога Хрыста і апосталаў па сягоняшні дзень і да канца сьвету. Усе людзі, усе плямёны і народы павінны прызнаваць і дзяржацца навукі праўдзівай Царквы, калі хочуць быць збаўленымі. А хто гэтай навукі цэлай і несапсованай ня зьдзержыць дабравольна і сьведама, той навекі загіне.

**Праўдзівая вера і Царква Хрыстова павінна быць апостальская.**

Гэта знача, што павінна вясьці свой пачатак ад апосталаў, вучыць таго, чаго вучылі яны, а ніколі таго, што навуцы апостальскай спраціўляецца. Вучыцялі гэтай веры япіскапы і сьвяшчэньнікі — гэта насьледнікі апосталаў: Апосталы пасьвячалі сваіх памоцнікаў і наступнікаў, тыя сваіх і гэтак дайшло аж да нашых дзён. **„Рукоположша же имъ пресвитеры на вся церкви и помолившася съ постомъ, предаста ихъ Господеви, въ Него же увѣроваша"** (Дѣянія 14, 23).

**Катора вера і Царква праўдзівая?**

Гэткай адзінай, сьвятой, саборнай і апостальскай верай і Царквой зьяўляецца адна толькі вера і Царква **Каталіцкая.** Слова „каталіцкая" з грэцкай мовы і азначае **паўсюдная** — значыць, пашыраная па ўсім сьвеце, для ўсіх народаў і плямёнаў прыгожая і добрая для збаўленьня душ. Толькі бо каталіцкая Царква мае ўсе гэныя знакі: яна адна па ўсім сьвеце, адну мае Галаву, Хрыста, на небе, а ім устаноўленага, Ягонага заступніка, Папу Рымскага — на зямлі. Яна раздае сем сьвятых Таінстваў, яна адлучае ад сябе тых, хто ў чым-колечы з ёй не згаджаецца і яе ня слухае. Яна **сьвятая,** бо сьвятым,найсьвяцейшым быў яе закладчык Хрыстос, сьвятыя шырылі яе апосталы і айцы Царквы, яна зрадзіла многа-многа сьвятых, сьвятасьць якіх пацьвярдзіў Бог многімі вялікімі цудамі.

Ні адна царква некаталіцкая ня можа пахваліцца такімі сьвятымі, якіх мае царква каталіцкая. Царква каталіц-

кая ёсьць запраўды паўсюднай (або саборнай), бо яна адна трывала і трывае ад часоў апостальскіх праз усе векі і трываць будзе да канца сьвету. Усе іншыя веры і іх цэрквы паўсталі ў пазьнейшыя часы і пачатак узялі не ад Хрыста і апосталаў, а ад розных грэшных ды гордых людзей, каторыя, ня хочучы падчыняцца зьверхнасьці Царквы Хрыстовай, адлучаліся ад самой Царквы і тварылі цэрквы фальшывыя, самі ўводзячы ў веру Хрыстову розныя, нязгодныя з яе духам, рэчы і адкідаючы з яе часта самыя аснаўныя праўды, — а ўгаварвалі людзям, што гэта іх вера найлепшая і найпраўдзівейшая.

Адна Царква Каталіцкая добрая і праўдзівая для ўсіх часоў, для ўсіх народаў на ўсім сьвеце, дзеля чаго і пашырылася ўсюды, а гэтак і зьяўляецца на праўдзе паўсюднай, што ў грэцкай мове называецца каталіцкай, а ў славянскай названа саборнай.

Толькі Каталіцкая Царква ёсьць праўдзівай апостальскай царквой, бо яна вучыць толькі таго-ж, чаго вучылі апосталы і што іх навуцы не спраціўляецца, яна трывае ад часоў апостальскіх і яе пастыры (япіскапы) гэта праўдзівыя наступнікі апосталаў.

**Што з гэтага вынікае?**

З сказанага вынікае, што кожны, хто хоча, каб душа яго не загінула, але мела жыцьцё вечнае ў небе, павінен веру каталіцкую добра пазнаць, да Царквы каталіцкай належаць, яе слухаць і выпаўняць усе яе прыказаньні.

*а. Б. П.*

---

# Пісьмы з Далёкага Ўсходу.

(*Працяг*).

II.

**Пасьля першага „Пісьма“ атрымаў я просьбу пісаць аб рэлігійных адносінах на Далёкім Усходзе. Добра, будзе і гэта: зьвярну на гэта вялікую ўвагу. Аднак перш хачу даць агульны паклад—фон і, сколькі мага, дэталічна апісаць мясцовыя адносіны, як у Манджурыі, так і ў Кітаі і Японіі.**

**Кітай ужо даўно перажыў тыя застарэласьці, каторыя ў Эўропе так любяць яму прыпісваць: як косы ў мужчын, калечаныя ногі ў жанчын і іншыя кітайскія „цэрамоніі“. Знамянітыя кітайскія рэфарматары — памёршы Сун-Ят-Сэн і цяперашні Чан-Кай-Шэк—зрушылі цяжкую машыну з месца, і вось яна пакацілася шыбка (можа нават зашыбка),**

каб дагнаць Эўропу. І даганяюць. Рэформа ідзе на ўсіх участках: ужо цяпер у гарадох рэдка сустрэнеш кітайца з заплеценай касой, ужо нават ня толькі стрыгуць валасы, але голяць бароды і галовы! А дзяўчат з маленькімі птушынымі ножкамі няма зусім; адзеты яны пановаму: белая блюзка, чорная спаднічка, доўгія панчошкі. Валасы астрыжаны да шыі. Гэта форма вучаніцаў. Яшчэ астаюцца зьверху кітайскія балахоны, як нацыянальная асаблівасьць. А каб відзелі вы, як кітайцы разьвіваюць спорт, скачуць на конях цераз пярэплаты, нават лётаюць на аэроплянах, дык і вы сказалі-б, — „Смок“ працёр вочы.

Праўда, многа яшчэ сплыве вады ў Янцэкіяндзэ і ў Сунгары, пакуль запануе ў Кітаі парадак: народ вельмі вялікі, прасторы бязьмежныя, суседзі — блізкія і далёкія — вельмі завідушчыя і лакомыя, дык і парадак завясьці вельмі цяжка. Адсюль унутраныя войны, хунхузы, хабары і іншыя адсталасьці, якіх многа, нават у старых культурных народах. Эўропэйцы справядліва сьмяюцца з гэтых беспарадкаў. Ёсьць нават прыслоўе цікавае: „Тры прынцыпы Сун-Ят-Сэна — Чэна, чэна, і чэна!“ зн. грошы, грошы і грошы! Бяз грошай нічога ня зробіш. А і ў Расеі гаварылі: „Не памажаш — не паедзеш!“ А ў Польшчы кажуць: „...і мажаш і... скрыпіць!“

Кітайцы скора пераймаюць чужую мову. Вот у Харбіне блізка што ўсе кітайцы гавораць парасейску. Толькі, прыняўшы мову, кітаец і далей астаецца кітайцам: ня чураецца сваіх абычаяў, свайго балахону, любіць свае дзеці, нават гардзіцца сваёю нацыяй. Ужо шмат гадоў Расея гаспадарыла ў Манджурыі, а ні адзін кітаец ня стаў расейцам! Цяпер японцы ўлезьлі сюды і гаспадараць праз падстаўленых людзей; кітайцы ня ўмеюць бараніцца, але японскай скуры не апранаюць — астаюцца самі сабой. А нашыя беларусы любяць малпаваць кожнага прыблуду!

Не магу прамінуць аказіі, каб ня ўспомніць яшчэ аб кітайскай „расейшчыне“:кожную раніцу, а нават і ўпрацягу дня, кітайскія гандляры выкрыкваюць парасейску назовы сваіх тавараў, ходзячы па дварох. Тут якраз даюць волю свайму горлу і сваёй фантазіі. „Гулецай!“ зн. агуркі. Трэба ведаць, што кітайцы не выгаварваюць „р“ і замяняюць на „л“, а японцы — наадварот! — „Галапузай!“ — крычыць другі, гэта значыць — гарбузы. У гэтых крыкуноў усё канчыцца на „ай!“ Іншы крычыць: „Тала еш бай!“ — вось будзь мудры і зразумей! хоць ён думае, што кажа парасейску. А гэта значыць: „*старыя вещи покупаю!*“. Яшчэ я маю малую практыку і не магу ўсіх іхных возгаласаў расшыфраваць. Найбольш мне, аднак, спадабалася, як я чуў у Цін-дао, — хадзіў кітаец і крычаў „парасейску“: „апчхі!“ Ходзіць з шавецкімі прыборамі і крычыць: „апчхі“! „Якое тут, ду-

маю, ліха? Пакітайску такога слова няма!“Толькі пасьля мне ўдалося „дапытацца, што такім спосабам ён скараціў: *„починяю сапоги!“*.

Вясёлы, як бачым, народ кітайцы! Наагул, у іх належыць да добрага тону ўсьміхацца з ветлівасьці. Пры сустрэчы-разьвітаньні не падаюць рукі, але нізенька кланяюцца. Калі асоба важная, кланяюцца разы два-тры, кожны раз ніжэй. Японцы таксама: пры іхным малым узросьце гэта выглядае досыць сьмешна Пры тым, аднак, японцы ўсьміхаюцца прыгажэй і прыветлівей: гэта не перашкаджае ім з эўропэйца сьцягнуць сёмую скуру. Японцы, сьмяючыся, паказваюць зубы, — а зубы вельмі прыгожыя Калі засьмяецца да цябе японскае дзіця, дык хіба будзеш каменем, калі і сам не засьмяешся!

Аб рэлігійных адносінах у Кітаі напішам у наступным „Пісьме“.

Харбін, 22.IX.1934. *(Далей будзе)* В. А.

---

# Эўхарыстычны Конгрэс у Буэнос-Айрэсе.

З таго часу, як пасьля некалькіх нясьмелых спробаў ранейшых гадоў, 28 чэрвеня 1881 году адкрыўся ў Ліле першы міжнародны Эўхарыстычны Конгрэс, можна сказаць пачаўся для культу Найсьвяцейшае Тайны аўтара пэрыяд нябывалага і што раз узрастаўшага блеску. Набожнасьці верных ужо перастала хапаць практыкованых дасюль формаў эўхарыстычных набажэнстваў; было замала ўжо месца, як у найбольшых сьвятынях, так і на рынках ды вуліцах аднаго гораду. Жывая вера і гарачая любоў зажадала перавясьці ўтоенага Збаўцу ў якім-небудзь трыумфальным паходзе па ўсім сьвеце і гэта не праз якія-колечы глухія куткі, а праз тыя найпрыгажэйшыя сталіцы, у якіх зьбіраецца і грае на абедзьвюх паўкулях найвышэйшае жыцьцё культурнага чалавецтва. Рым, Парыж, Лёндан, Вена, Мадрыд, Амстэрдам, Брусэль, Ерусалім, Карфагэн, Монтрэаль, Чыкаго, Сіднэй і ў сёлетнім годзе Буэнос-Айрэс — вось галоўныя, у працягу апошніх 50-цёх гадоў, этапы вандраваньня Найсьвяцейшае Гостыі па ўсёй зямлі, сярод найглыбейшых паважаньняў з аднаго боку ды нязьлічаных багаславенстваў — з другога. А калі дзе даходзіць да рэзультату гэта высокая маніфэстацыя веры і любові да ўтоенага Хрыста, там зьбіраецца ўсё, каб абкружыць Яго найбольшаю чэсьцю і славаю. Зусюль зьбіраюцца сотні тысяч, а з мясцовымі вернымі і мільёны набожнага народу; на ўшана-

ваньне Найсьвяцейщае Тайніцы вызыскваецца ўсё, што можа даць новачаснае мастацтва і тэхніка.

Што сёлетні Конгрэс ня толькі ня ўступаў сваім папярэднікам, а бліскучасьцяй і якнайлепшай арганізацыяй сьвяткаваньняў стаў сярод найлепшых гэтага роду ўрачыстасьцяў, гэта ўжо вядома з штодзеннае і тыднёвае каталіцкае прэсы. Вялікаму сьвяту Эўхарыстыі дадавала неапісальнае чароўнасьці яснае неба Паўднёвае Амэрыкі ды вельмі прыгожая прырода, мудра ўзбагачаная ўсім, што для ўпрыгожаньня падобных сабраньняў прывык датарноўваць сучасны поступ. Некаторыя мамэнты гэтых дзён трыумфу ўтоенага Збаўцы, як прыняцьце і провады папскага легата, вялікая канцавая працэсія, у часе якой з самалётаў сыпаліся кветкі, перадаваная 1200 галасьнікамі прамова сьв. Айца, якую з затрымліваным духам слухалі блізка што двухмільённыя натаўпы набожных, — гэта былі цудоўныя, незапамінальныя мамэнты, якія нават, прывыкшым да гэткіх відаў, удзельнікам некалькіх папярэдніх конгрэсаў, здаваліся нечым незраўнальна прыгожым.

Сёлетні Эўхарыстычны Конгрэс пачаўся ў Аргэнтынскай сталіцы Буэнос-Айрэсе 12-га кастрычніка, сабраўшы сотні тысяч народу з усіх краінаў сьвету. Запраўдныя ўрачыстасьці пачаліся з мамэнтам прыбыцьця папскага легата кардынала Пачэльлі, прыехаўшага караблём Контэ-Грандэ пад папскім штандарам у таварыстве. спэцыяльнае дэлегацыі. Войска прывітала яго пачэсным салютам ў 21 стрэл, загулі сырэны ўсіх іншых параходаў на прыстані, з грукатам закруціліся аэрапляны. З карабля кардынал багаславіў шматтысячны натаўп. На карабель узышоў Аргэнтынскі прэзыдэнт гэнэрал Юсто разам з міністрамі, каб прывітаць дастойната гасьця. Агульныя сабраньні Конгрэсу адбываліся ў парку Палермо, дзе на ўрачыстасьці першага дня Конгрэсу было больш як паўмільёна душ. Цэлымі ночамі ўсе цэрквы былі адчыненымі, дзе адбывалася адорацыя Найсьвяцейшай Эўхарыстыі, ад поўначы ўсюды служыліся Божыя службы і сотні тысяч верных прыступалі да Сьв. Прычасьця. Другі дзень Конгрэсу, афіцыяльна прызнаны „днём дзяцей,“ сабраў на вялізарным пляцы парку Палермо больш як 100.000 дзяцей з розных бакоў Аргэнтыны і іншых краін Паўдзённае Амэрыкі. Дзеці слухалі службы Божае і прыступілі да Сьв. Прычасьця. Гэта была запраўды ўзварушальная мінута. А мамэнтаў гэткіх было шмат. Уся Аргэнтына цешышася, горад быў уквечаны, дзень Эўхарыстычнага Конгрэсу прызнаны нацыянальным сьвятам Аргэнтыны. Сам Сьв. Айцец прамовіў праз радыё да учасьнікаў Конгрэсу, пасылаючы ўсім апостальскае багаслаўленьне.

Дзелячыся сваімі ўражаньнямі з Конгрэсу з супрацоўнікам Каталіцкае Прэсавае Агенцыі, кардынал Пачэльлі, па-

між іншым, сказаў, што адным з найважнейшых пладоў Конгрэсу было пажаданьне міру і малітвы аб ім. Ніколі хіба ў сэрцах людзей не ўмацавалася настолькі глыбокае пераканацьне, што толькі любоў да Бога можа давясьці да праўдзівага міру. Конгрэс наказаў каталіком усяго сьвету абавязак прапаведваньня братэрскае любові, утварэньня з яе аснаўнога закону, якім павінны кіравацца народы ў індывідуальным і грамадзкім жыцьці, а таксама абавязак перамогі над запорамі, якія трапляюцца на дарозе да зьдзейсьненьня гэтае найвышэйшае мэты. Братэрская любоў, якая цячэ ў духовай атмосфэры ад Эўхарыстычнага Стала, павінна пранікаць у жыцьцё кожны дзень, кожную гадзіну.

На закончаньне кардынал Пачэльлі сьцьвярджае, што пладом Конгрэсу зьяўляюцца тры нязьмерна каштоўныя разважаньні. Першае з іх — гэта пазнаньне, што сьв. Эўхарыстыя ёсьць элемэнтам жыцьця Царквы і дарам Божым для чалавецтва, гэтак моцна патрабуючага ласкі; другое, — што папства ёсьць сымболем і гарантыяй Царквы, Боскім дарам для чалавецтва, якое жадае сьвятла; трэцяе, нарэшце, што братэрства ў Хрысьце ёсьць аснаўным грамадзкім законам народаў і адзінаю дарогаю да праўдзівага міру.

---

# Урачыстасьць Сьв. Параскевы ў Мятыне.

(*Ров. пав*).

10 лістапада г. г. адбылася нязвычайная ўрачыстасьць у Мятыне на храмавое сьвята Сьв. Параскевы. Цяпер усё сяло прыняло Сьв. Унію; царкву павятовая ўлада яшчэ перад тым апячатавала, аднак-жа сьвята адбылося вельмі ўрачыста. Было двух сьвяшчэньнікаў: а. Ільян Гук і а. Іоан Гэрмацюк, а таксама і дыякан Авім. Народу папрдыходзіла каля 2000.

Да споведзі было вельмі многа людзей, 2 сьвяшчэньнікаў маглі выспавядаць толькі адну трэцюю частку жадаючых выспавядацца.

Сьпявалі ў часе Божае Службы 2 хоры: мясцовы ды а. Гэрмацюка, які прыехаў на ўрачыстасьць са сваім хорам.

Былі 2 пропаведзі: адну сказаў а. Гэрмацюк, а другую а. Гук.

Урачыстасьць зрабіла на прысутных вялікае ўражаньне, яшчэ больш умацавала іх у Сьв. Уніі.

Духоўнік нязлучанага праваслаўя ўжо перастаў прыяжджаць са сваім сталом служыць Літургію, і добра зрабіў, бо няма яму чаго рабіць у Мятыне.

*Злучэнец.*

# Барацьба з рэлігіяй у Мэксыцы.

31 кастрычніка с. г. ў Мэксыцы абвешчана офіцыяльная ўрадовая пастанова, на моцы якое праз месяц маюць быць зачыненымі ўсе каталіцкія сьвятыні, а духоўнікі выселены з краю. Нават у Бальшэвіі, у часы найбольшага напружаньня рэлігійных прасьледаваньняў, ня ішлі гэтак далёка ў кірунку гвалтоўных рэпрэсыйных спосабаў. Дзеля гэтага вось нячуваны замах на найсьвяцейшыя пачуцьці грамадзян выклікаў ува ўсім сьвеце, ня толькі сярод каталікоў, зразумелае абурэньне.

Як паведамляюць з Парыжа, мэксыканскі парлямэнт прыняў урадовы проект закону аб „вольным і соцыялістычным выхаваньні“ моладзі. Гэты новы закон мае выразна антырэлігійны характар і ня ўступае, у гэтым сэнсе, ні ў чым адпаведным савецкім правілам. Асаблівае ўвагі заслужвае арт. 73 закону, які ўводзіць соцыялістычнае выхаваньне моладзі, як абавязкавае для ўсіх публічных і прыватных пачатковых ды сярэдніх школаў. Адны толькі унівэрсытэты зводьнены, пакуль што, ад гэтага прымусу.

Пратэсты проці новых правілаў падала ўжо Адвакацкая Палата і Мэксыканская Акадэмія Юрыдычных Навук, падчыркваючы, што прымус соцыялістычнага выхаваньня ёсьць у страшэннай супярэчнасьці з прынцыпам „вольнага выхаваньня.“ Да гэтых пратэстаў далучыўся таксама і рэктар мэксыканскага нацыянальнага унівэрсытэту, які ў новым законе бачыць грозную небясьпеку для свабоды унівэрсытэцкіх студыяў.

Як-жа мэксыканскі ўрад апраўдваецца перад сусьветнай опініяй у сваім паступаньні?

Агульнае абурэньне, выкліканае ў сусьветнай опініі грубым і крывавым прасьледаваньнем рэлігіі, змусіла мэксыканскі ўрад да апраўдаваньня сваіх барбарскіх паступкаў. Апошнім часам мэксыканскае пасольства разаслала па рэдакцыях нямецкіх газэт цыркуляр, які мае быць „кароткім і рэчовым спраставаньнем“ распаўсюджваных аб гэтым краі вестак. Варта пазнаёміцца з гэтым адзіным у сваім родзе дакумэнтам, які стараецца выбеліць жорсткасьці мэксыканскіх уладароў і зваліць віну на прасьледаваных.

Аб школьнай рэформе, што выкідае з усіх бяз вынятку пачатковых і сярэдніх школаў навучаньне рэлігіі ды накідае ўсім дзецям соцыялістычнае выхаваньне, аўторы цыркуляру пішуць гэтак: „Уведзеная аднароднасьць выхаваўчае сыстэмы ў школьнай справе, на аснове навуковага тлумачэньня зьявішчаў сусьвету і прыроды, імкнецца да бясспрэчна здаровае мэты, якою зьяўляецца стварэньне адпорнасьці ў падлеглай усялякім уплывам уражлівасьці моладзі проці забабонаў і ўпярэджаньняў. Акцыя аднародна-

га, трывалага фармаваньня пагляду на сьвет, з якою лучыцца адраджэнскі рух ува ўсім народзе, можа быць загарантована толькі адпаведнаю адукацыяй маладога пакаленьня." Ня менш фальшыва прадстаўлена ў цыркуляры справа нібыто рэлігійнае свабоды ў гэтым краі сьлёз і нядолі: „Загадаў урадовых уладаў, што маюць на мэце утрыманьне спакою і зламаньне спрацiву законнай рэформе, ня трэба лічыць аналёгічнымі з прасьледаваньнем Царквы. Рэлігійная свабода была і ёсьць забясьпечана констытуцыяй і нават дзяржаўным вураднікам не перашкаджаецца ў карыстаньні з гэтае свабоды."

А тымчасам бязупынна праводзіцца павялічваньне ліку верных, прадпісаных уладамі на аднаго духоўніка, якое апошнімі днямі ў штаце Квэрэтаро давяло да „прадпісаньня" 200.000 жыхароў на аднаго сьвяшчэньніка.

Як тлумачыць офіцыяльны дакумэнт, „зачыненьне цэркваў нікога не павінна зьневажаць(!), таму, што гэта толькі часовае распараджэньне, выданае з мэтаю забясьпечаньня парадку і спакою, а празьмернае абмяжоўваньне колькасьці сьвяшчэньнікаў у адношаньні да ліку жыхароў таксама ня можа быць повадам да абурэньня, бо на практыцы ўжываецца з усёю асьцярожнасьцю і ў шмат якіх штатах не атрымала дасюль законнае санкцыі."

Гэткім чынам, сам мэксыканскі ўрад, праз цыркуляр свайго пасольства, прызнаецца, што некаторыя яго паступкі зьяўляюцца бяспраўем.

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Мятын**, Ровенскага павету. Жыхары Мятына, нядаўна прыняўшыя Сьв. Унію, моцна яе трымаюцца. 11 лістапада с. г. Кіпрыян Вітрук з Мятына браў багатую дзяўчыну з Глынок, якая, пад уплывам сваіх бацькоў, абавязкава хацела перацягнуць Кіпрыяна з паваротам да нязлучанага праваслаўя ды павянчацца ў праваслаўнага сьвяшчэньніка. Аднак Кіпрыян не пагнаўся за багатым пасагам; калі хоча,— сказаў,—хай прыяжджае да Мятына, павянчае нас уніяцкі бацюшка. Доўга, да поўначы, праз дэлегатаў таргаваліся, аднак Кіпрыян ня ўступіў. Дзяўчына і яе бацькі, бачачы, што ня здолеюць захістаць рэлігійных пераканаваньняў маладой, пабіліся. Маладая прыняла офіцыяльна Унію, і шлюб адбыўся дзесь каля поўначы, — дзеля ведамых прычын — перад цэрквою. Амаль усё сяло зьбеглася паўглядацца на вясельле. Гэтак адбылося ўжо з дзесяток шлюбаў.

**Луцк.** 8 лістапада распараджэньнем епархіяльнае ўлады а. Ніфаш Мядзьведзь пераведзены з Цэглава, Гарохаўскага павету, настаяцелем у Куськоўцы, Крэмянецкага пав., а а. Ільян Гук назначаны настаяцелем новага прыходу ў сяле Мятын, Ровенскага павету. Цэркваю ў Цэглаве апякуецца суседні уніяцкі сьвяшчэньнік.

**Львоў.** Да Львова прыехаў 25 кастрычніка з Рыму Апостальскі Візытатар а. Іоан Гудэчак, Рэдэмпторыст, для пазнаньня палажэньня гр.-кат. Царквы ў Галіцыі. Затрымаўся Апостальскі Візытатар у Я. Пр. Мітрапаліта Шэптыцкага. 12 лістапада г. г. Апостальскі Візытатар паехаў да Станіслава.

**Вільня.** Выйшаў з друку першы нумар новае беларускае часопісі для дзетак. Добра, што гэта часопісь друкуецца лацінікай, дзеці могуць шмат скарыстаць, чытаючы часопісь „Praleski“. Старшыя хай парупяцца выпісаць часопісь гэту для сваіх дзетак. Падпіска каштуе толькі 1 зл. на год. Адрэс адміністрацыі: Wilno. ul. Zawalna 1—3.

**Варшава. Конфэрэнцыя крэсовых япіскапаў у справе Уніі.** У Варшаве 30 кастрычніка г.г. адбылася конфэрэнцыя ў палацы Апостальскага Нунцыя, у якой бралі ўдзел Іх. Экс. Мітрапаліт Ялбжыкоўскі, Яп. Люблінскі Фульман, Яп. Падляскі Пшэзьдзецкі, Яп. Пінскі Букраба, а з Луцка, замяшчаючы хворага Яп. Шэлёнжэка, Яп. Вальчыкевіч, Апостальскі Візытатар Я. Пр. Уладыка Мікалай Чарнэцкі ды гаспадар дому Я. Экс. Архіяп. Мармаджы.

На конфэрэнцыі сьцьверджана, што, ня гледзячы на перашкоды, справа унійная пашыраецца ды ўмацоўваецца. За апошні час на Валыні паўстала 5 новых уніяцкіх парафіяў (Гаі Левітанскія ля Радзівілава, Мятын ля Роўна, Тутовічы, Сарненскага павету, Застаўль каля Роўна ды ў Луцку). У іншых епархіях выразна можна заўважыць умацаваньне даўнейшых пляцовак. Усяго, апрача Галіцыі, маем ужо 45 парафіяў, усіх сьвяшчэньнікаў усходняга абраду 60, а галоўнае, што дае надзею спадзявацца новых працаўнікоў, добра падрыхтаваных да місіянэрскае працы, гэта ўсходняя сэмінарыя ў Дубне, якая мае 24 гадунцоў.

Яшчэ адчуваюцца недахопы, асабліва ўсе адчуваюць патрэбу свайго епархіяльнага япіскапа ўсходня-славянскага абраду. Трэба спадзявацца, што дасьць Бог і гэта хутка будзе.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Букарэшт. Аб злучэньні цэркваў у Румыніі.** Мы ўжо пісалі ў свой час пра новы рэлігійны рух сярод праваслаўнага румынскага духавенства ў ваколіцах Кішынёва, рух,

які ідзе што раз выразьней да злучэньня румынскае царквы з Каталіцкаю Царквою. Галоўную ролю адыграў у гэтым (ды цяпер адыгрывае) кішынёўскі архімандрыт а. Цэцан. Дасюль агул праваслаўнага духавенства ў Румыніі адносіўся да пачатае а. Цэцанам акцыі вельмі ваража, доказам чаго служыць могуць адозвы аб гэтай справе да праваслаўнага насяленьня, працэсы і выразныя выступленьні проці ідэі Уніі, а нават і прасьледаваньні тых, хто яе трымаецца. Аднак-жа лета прынясло некаторыя зьмены, і нават паважныя, ў гэтай справе. Сяньня ўжо можна устанавіць, што ініцыятыва кішынёўскага архімандрыта знаходзіць падтрыманьне сярод шмат якіх духоўнікаў ня толькі Бэсарабіі, але і іншых краін каралеўства. Сымпатыі да каталікоў і Апостальскае Сталіцы пачынаюць ужо прымаць форму арганізованае унійнае акцыі. Зразумела, што акцыя гэта знаходзіцца яшчэ толькі ў пачатковай стадыі. З кожным разам павялічваецца колькасьць праваслаўных духоўнікаў, якія жадаюць паверыць твораную справу дабрадзейнасьці апецы каталіцкіх сёстраў. У адным з праваслаўных манастыроў ігумэн распальвае ў душах сваіх манахаў гарачае жаданьне каталіцкае містыкі, спэцыяльна захапляючыся статутам ордэну Бэнэдыктынаў; пладом гэтых стараньняў ёсьць тое, што адзін з апошніх навіцыянтаў атрымлівае ў чэсьць заснавальніка гэтага ордэну імя Бэнэдыкта. Адна група унівэрсытэцкіх прафэсароў заяўляе сваю гатовасьць пачаць кампанію на шпальтах прэсы з мэтай прапагаваньря злучэньня Цэркваў.

**Ватыкан. Сусьветныя каталіцкія місіі ў лічбах.** З прычыны місійнае нядзелі, якая, як ведама, ёсьць перадапошняю нядзеляй кастрычніка, абвешчана гэткая статыстыка сусьветных каталіцкіх місіяў:

У сучасны мамэнт працуе ў місіях 18.028 сьвяшчэньнікаў, 8.755 братоў і 55.555 сёстраў, апрача таго 74.147 катэхістаў і 62.087 настаўнікаў. Місійныя станцыі маюць 56.327 цэркваў, 37.200 школаў, з 2.28.8171 вучнем, 771 шпіталь з 36.310 ложкамі, 108 закладаў для пракажаных з 12.779 ложкамі, 1971 сіроцкі дом з 112.900 выхаванцамі і 428 прытулкаў для старых з 17.688 дагляданымі.



# Куток для дзяцей



## Ахвяра.

Коля мае 12 гадоў. Энэргічны твар, цёмныя вочы і валасы, вясёлы, жывы, як іскра, ён заўсёды ў руху. Коля ў пятай клясе гімназіі. Вучыцца яму лёгка, бяда толькі ў тым, што ён лянівы і дзеля гэтага ня вучыцца так добра, як-бы мог. Сёньня, калі ў школе чыталі цэнзуркі, — у яго была благая, сумленьне яго вельмі мучыла. Ён ведаў, што ён здольны, але ня мог прымусіць сябе вучыцца. Больш яго

цягнула езьдзіць на ровэры, чымся сядзець над нуднымі лекцыямі. Сёньня ён толькі пераглядзеў заданыя лекцыі і хацеў ужо ўцякаць з дому, раптам пачуў стогн. Ён кінуўся туды, скуль чуў стогн — гэта бацька яго ляжаў няпрытомны на падлозе. Коля кінуўся да яго, падняў і палажыў на кушэтку. Маці яго засталася каля бацькі, а ён сам пабег па доктара. Доктар аглядзеў хворага і сконстатаваў хваробу сэрца; сказаў, што пры моцным прыпадку бацька можа памерці. Гэта было першае моцнае перажываньне душы Колі. Глядзіць ён на бацькаў твар, яшчэ не стары, энэгічны, а цяпер зьбялелы, сумны... Гэтыя рукі, сільныя рукі каваля, для якіх молат і жалеза — забаўка, цяпер, бледныя, бясьсільна ляжалі на ложку. Коля — адзіны сын, уся надзея ў ім. Бацька не шкадаваў сваіх сілаў, каб даваць яму адукацыю, а ён... о, як горка цяпер у яго на душы! Гэты бледны твар бацькі і гэтыя бязуладныя рукі гэтак яму гавораць: — „чаму ты ашукваў нас, чаму ня трудзіўся так, як-бы мог? Бачыш — да чаго ты давёў нас?!“...

Коля апусьціўся на калены, ён чуў сябе нягодным пацалаваць гэту руку, каторая столькі працавала для яго, а цяпер — ляжыць бясьсільна-бледная на ложку... Але Бог не пакідае нікога. Коля належаў да Рыцарства, тым больш сумленьне яго мучыла, што ён нясуменна служыць свайму Хрысту-Цару. Але Хрыстос, гэты добры Хрыстос, ласкава паглядзеў на Колю ў гэту цяжкую для яго часіну. Вочы ў Колі бліснулі, ён махнуў энэргічна галавой і сказаў сабе: — Годзі!.. Бог даў мне здароўе і здольнасьці, не магу Яго больш ашукваць, я рыцар Яго... Вазьмуся за сябе і буду старацца ўзнагарадзіць Бога і майго беднага бацьку за ўсё...

Цяпер ён чуў у сабе сілу — Хрыстос яе даў яму і ён з пашанай і гарачай любоўю дакрануўся дрыжачымі вуснамі да рукі дарагога бацькі...

Перш за ўсё прыйшла перамена ў школе: Коля зрабіўся першым вучнем. Бацька, які ўжо аздаравеў, ня мог нацешыцца з Колі, каторага гэтак горача любіў; трэба сказаць, што гэта быў час пасьляваенны, калі людзям цяжка было на грошы, і бацька Колі таксама мусіў шмат працаваць на сваю сям'ю. Цяпер, калі выздаравеў, нават і ўночы працаваў, не зьвяртаў увагі на сваё здароўе, каб толькі магчыма больш запрацаваць і пракарміць сям'ю. Многа ночаў ён не даспаў, клаўся спаць а першай гадзіне, а раніцай ізноў ішоў працаваць. Бог даў якраз, што цяпер меў ён заказ на сякеры. Шляхотнае сэрца Колі зразумела, дзе можа памагчы і прынясьці сваю ахвяру. Цяпер ён уставаў ціха а першай гадзіне ўночы, ішоў у кузьню і там працаваў. Гэта яму ўдавалася, таму што пакой яго быў далёка

і ён спакойна, ціха мог выходзіць. У кузьні працаваў ён да раніцы, не марнаваў ні аднае мінуты, каб толькі, якнайбольш памагчы бацькаві. І запраўды, у месячным рахунку была вялікая розьніца і бацька быў вельмі шчасьлівы. Коля хаваў сваю дарагую таямніцу ў душы і працаваў яшчэ з большым стараньнем. Бацька вельмі любіў сына, хацеў мець яго заўсёды каля сябе, але за апошні час заўважыў, што Коля як-бы ляніўся ў школе, цэнзуркі зьніжаліся, часта ён зяваў і быў нейкі зьбялелы, апатычны. Часта бацька рабіў яму ўвагі. Ішоў ужо трэці месяц гэткае працы Колі. Ён пахудзеў і запраўды быў змучаны...

Адноўчы, калі Коля прынёс цэнзурку з аднымі тройкамі, — дык бацька разгневаўся і сказаў, што больш ня мае для яго сэрца. Гэта быў надта цяжкі ўдар для Колі. У душы яго ішла барацьба — ён ужо хацеў сказаць бацькаві ўсё, адкрыць перад ім сваю душу і падумаў: „сёньня ўжо ня ўстану ўночы, а заўтра ўсё скажу бацькаві". Коля меў цьвёрдую пастанову, але калі надыйшла поўнач, — ён, па прывычцы, спаць ня мог, пастанавіў яшчэ хоць раз памагчы бацькаві, а заўтра ўсё сказаць яму. Ціха ўстаў і выйшаў. Змучаны, узяўся ён за працу, ахвота і энэргія ў ім усё больш і больш разгаралася і ён працаваў ужо некалькі гадзін. Шмат сякераў ён ужо зрабіў, засталося толькі тры. Коля працуе, няма часу нават сьцерці пот з твару, яшчэ толькі дзьве... Думка аб бацьку не пакідае яго: — „гэта для цябе, тата, ужо апошні раз, а заўтра ўсё скажу..." Молат udaраў па распаленым жалезе яшчэ і яшчэ... ужо апошні раз... Рукі зьвісаюць і Коля змучаны сядае на лаўку. У гэтую мінуту чуе ён, што нехта абняў яго... Ён уздрыгнуў і вочы яго сустрэліся з поўнымі сьлёз вачыма бацькі.

— Коля, дарагі!... О, як я памыліўся! О, як я асуджваў цябе!...

І першы раз, пасьля доўгага, такога цяжкага часу для Колі, бяз добрага, прыветлівага слова бацькі, — ён пачуў на чале сваім гарачы пацалунак гэтак любага і любячага бацькі.

— Цяпер ідзі спаць, дарагі мой сын, — ласкава сказаў бацька, абняў яго і завёў да маткі, сказаўшы:

— Мы яго асуджвалі, а ён працаваў начамі для нас...

Коля абняў сваю маці і першы раз, пасьля гэтак доўгага часу, чуў сябе такім шчасьлівым, што споўніў свой абавязак і што Хрыстос цешыцца і багаслаўляе яго.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Сьнежань 1934 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | П | Наума | 14 | P | Śpirydona. Herona |
| 2 | С | Аўвакума | 15 | S | Walerjana. Antona |
| 3 | Н | **Н. 29 п. П.** Софонія пр. | 16 | N | Eŭzebija. Albina. Walen. |
| 4 | П | Барбары | 17 | P | Łazara. Alimpii. |
| 5 | А | Саўкі | 18 | A | Wiktaryna. Hracyjana |
| 6 | С | **Сьв. Мікалая Цудатвор.** | 19 | S | *Suchi dzień.* Daryja. Zas. |
| 7 | Ч | Амброжага Мілан. | 20 | Č | Teafila. Zenona |
| 8 | П | Патапа | 21 | P | *Suchi dzień.* Tamaša. Jana |
| 9 | С | **Беззаган. Зач. Пр. Баг.** | 22 | S | *Suchi dzień.* Herona. Zen. |
| 10 | Н | **Н. 30 п. П.** Міны. | 23 | N | Wiktoryi |
| 11 | П | Данілы Стоўпн. | 24 | P | (*Wihilija*). Adama i Ewy |
| 12 | А | Сьпірыдона яп. | 25 | A | **Rastwo Chrystowa. Kal.** |
| 13 | С | Аўксенція | 26 | S | **Druhi dzień Kalad.** Ściap. |
| 14 | Ч | Тырса і Тав. | 27 | Č | Jana Ewanhielista. Tod. |
| 15 | П | Элеўфэрыя | 28 | P | *Dzietak Mučanikaŭ.* Teaf. |
| 16 | С | Агея | 29 | S | Tamaša. Dawida. Urbana |
| 17 | Н | **Н. 31 п. сьв. Праайцоў** | 30 | N | Dawida. Aŭhienia |
| 18 | П | Савасьцьяна | 31 | P | (*Kućcia*). Sylwestra |
| | | | | | STUDZIEŃ 1935. |
| 19 | А | Баніфацыя | 1 | A | **Nowy Hod. Abr. P.** |
| 20 | С | Ігнацыя Баган. | 2 | S | Imieńnia Jezusa |
| 21 | Ч | Юльяніі | 3 | Č | Genowefy |
| 22 | П | Анастасіі вмч. | 4 | P | Tytusa b. i m. |
| 23 | С | 10 муч. Крэтэйск. | 5 | S | Telesfora Pap. |
| 24 | Н | **Н. 32 сьв. Айц. (Куцьця)** | 6 | N | **Troch Karaloŭ.** |
| 25 | П | **Нарадж. Іс. Хр. (Каляды)** | 7 | P | Lucyjana |
| 26 | А | **Саб. Прасьв. Багар.** | 8 | A | Seweryna Ap. |
| 27 | С | Сьцяпана | 9 | S | Marcyjanny |
| 28 | Ч | Мчч. Нікомідыйскіх | 10 | Č | Ahatona |
| 29 | П | 14.000 дз. заб. у Віфл. | 11 | P | Hygina p. |
| 30 | С | Анісі Муч. | 12 | S | Św. Siamji |
| 31 | Н | **Н. 33 п.Н.Х. Малані Рым.** | 13 | N | 40. žaŭnieraŭ muč. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.

